Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 20.000 м. п.

# ЗМАГАНЬНЕ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12, п. 6. (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад 9 да 3 г.

Выходзіць тры разы у тыдзень.
Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 160.000 м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 30.000 мк., сярод тэксту 25.000 м. і на 4 стр. 20.000 м., за радок пэтыту у 1 шп.

№ 8. Вільня, Серада, 21-га лістапада 1923 г. Год I.

## Замах на культуру.

„Зьліквідаваўшы“ беларускую народную школу ў Заходняй Беларусі, давёўшы лічбу гэтых школ з некалькіх сотняў да дзесятка і зусім пазбавіўшы беларускае насяленьне магчымасьці адкрываць новыя школы ў беларускай мове, „паны палажэньня“ рыхтуюцца зрабіць новы ўдар істнуючым яшчэ беларускім школам: пяцём гімназіям і гэнай маленачкай астачы народных школ.

Справа вось у чым. Галоўны орган урадовае партыі „Gazeta Warszawska“ ў нядзельным нумары зьвярнулася да міністра асьветы, заклікаючы яго „правясьці хоць-бы такое важнае заданьне, якое прадстаўляе ўвядзеньне ў рускія (разумей: украінскія) і беларускія школы лацінскіх літараў“, бо гэта, па думцы газэты, „зьяўляецца неабходнай умовай дзеля таго, каб уцягнуць тутэйшы народ у арбіту заходняе культуры“.

Ня першы раз сустракаемся мы з гэткімі дамаганьнямі зьвярынага польскага нацыяналізму ўчыніць самы дзікі гвалт над беларускай культурай, якім была-бы забарона ўжываньня нашага адвечнага, гістарычнага шрыфту. Ня першы раз эндэкі маняцца гэткім спосабам паглыбіць той падзел беларускага народу, які зроблены ў Рызе, навязываючы заходнім беларусам зусім чужую для іх лацініку, каб яны не маглі карыстацца багатай беларускай літэратурай, друкаванай у Усходняй Беларусі выключна „кірыліцай“. Але дагэтуль эндэкі ня мелі ўлады, а п. Пілсудскі, ня гледзячы на ўсё сваё беларусаедзтва, не адважаўся на такі дзікі гвалт над усей культурай нашага народу. —Цяпер, калі ўтварыўся эндэцкі ўрад, лятуценьні эндэкаў могуць зьдзейсьніцца: sic volo, sic jubeo (так хачу, так прыказываю).

Пагроза забароны ўжываньня беларускага гістарычнага шрыфту, апрача чыста прынцыповага значэньня, апрача забойчага ўплыву на разьвіцьцё адзінае, усенароднае беларускае культуры, *пагражае вытварэньнем „двух народаў“—усходніх і заходніх беларусаў*, падобна таму, як на грунце прыналежнасьці да розных рэлігіяў (праваславія і каталіцтва) і ўжываньня розных шрыфтаў (кірыліцы і лацінікі) адзіны сэрбскі народ падзяліўся на два: сэрбаў і харватаў, якія гавораць аднэй мовай, але зьяўляюцца адны адным чужымі. На грунце прыналежнасьці часткі беларусаў да каталіцкага вызнаньня так-званыя „паляка-літвіна-беларусы“ хацелі ў свой час гэту частку нашага народу адарваць ад праваслаўнае большасьці. Польскія-ж нацыяналісты йдуць далей: яны ўсіх заходніх беларусаў маняцца адарваць ад іх усходніх братоў, навязаўшы і каталікам і праваслаўным—лацініку.

Да гэтага трэба дадаць і яшчэ адно. З нязвычайнымі труднасьцямі, з нязьвычайным напружаньнем сваіх інтэлектуальных і матэрыяльных сілаў беларускае грамадзянства Заходняе Беларусі стварыла школьныя падручнікі ў беларускай мове, друкаваныя *кірыліцай*. Гэтыя падручнікі—падстава нашае пачатковае і сярэдняе школы: бяз іх ня можа існаваць беларуская школа наагул. Аўтары праекту навязаньня нам лацінікі дужа добра разумеюць, што забарона карыстацца ў беларускіх школах кірыліцай раўназначна *пазбаўленьню школы падручнікаў наагул*: бо беларускае грамадзянства ня мае ні магчымасьці, ні грошы, каб перадрукаваць увесь наш літэратурны здабытак лацінскімі літарамі замест кірылічных. Зрабіць гэта магла-бы толькі дзяржава, але хіба-ж няма такіх наіўных, якія хоць на мамэнт паверылі-бы, што *Польская* дзяржава будзе друкаваць *беларускія* кнігі! І можам з поўным пераканаьнем сказаць, што *навязаньне беларускай школе лацінікі — гэта ёсьць поўная ліквідацыя беларускае школы ў межах Польскае рэспублікі*. Калі-б урад даў послух аўтарам гэтага барбарскага праекту і разаслаў адпаведныя інструкцыі паном куратарам, дык тыя сквапна пазачынялі-бы ўсе існуючыя беларускія гімназіі і народныя школы на той простай падставе, што ўвядзеньне лацінічных падручнікоў немагчыма, бо... яны ня існуюць!

Мы ўжо сказалі, што польскі праект лацінізацыі нашае школы *абымае адначасна і беларусаў-каталікоў і праваслаўных*. Для апошніх гэта зьяўляецц падвойным ударам: бо *кірыліца зьвязана для праваслаўных ня толькі з роднай культурай, але і з рэлігіяй*—з прычыны ўжываньня кірыліцы ў царкве. І аб гэтым, відаць, польскія кіраўнічыя сфэры ўжо падумалі: каб падгатаваць грунт дзеля „ўвядзеньня беларусаў у арбіту заходняе (разумей: польскае) культуры“, віленская праваслаўная духоўная сэмінарыя, за розныя пасулы кіраўнікам яе, узгадовывае сваю моладзь—будучых сьвяшчэнікаў—ужо ня толькі ў духу польскае дзяржаўнасьці, што было-б зразумелым, але і ў духу *польскае нацыянальнасьці*. Не далей, як у гэту нядзелю, мы мелі першую дэманстрацыю-паказ, як прышчапляецца польскі нацыянальны дух гадунцам сэмінарыі: на сваім публічным вечары хор сэмінарыстаў „с чувтвом и толком“ праяў вядомую польскую патрыятычную песьню, у якой, паміж іншым, гаворыцца:

Polski my naród, polski lud,
Królewski szczep Piastowy...

Ад гэтага ўжо толькі адзін малы крок да пераходу ня толькі на лацініку, але і на польскую выкладовую мову: пяюць-жа сэмінарысты, што яны—„польскі народ і польскі люд“...

Чытаючы эндэцкі праект лацінізацыі беларускіх школ, прыходзіць у галаву думка, што эндэцыя,—зьняверыўшыся ў італьянскім фашызьме, які дагэтуль быў для яе ўзорам паступаньня, але цяпер аказаўся лішне „германафільскім“, прыхільным да Нямецкага народу.—пачала браць прыклад з так добра нам знаёмае *маскоўскае чорнае сотні*. І праект эндэкаў—гэта толькі пераробка вядомага загаду царскага ўраду, *каб усе літоўскія кніжкі, у тым ліку і малітвенікі, друкаваліся абавязкова рускімі літарамі*. Маскоўская паліцыя ўрывалася ў касьцёлы, вырывала літоўскім сялянам іх малітвенікі, друкаваныя лацінікай, і гвалтам утыкала ў рукі кніжкі, спэцыяльна надрукаваныя ўрадам „гражданкай“. Вось, так, як маскалі навязывалі літвіном „гражданку“, каб „далучыць іх да расейскае культуры“, так палякі зьбіраюцца навязываць нам лацініку „дзеля далучэньня да польскае культуры“.

Гожа прыпомніць, што маскалём *не ўдалося* гвалтам прымусіць літвіноў карыстацца „гражданкай“. Яны толькі збудзілі сярод літвіноў дзікую *ненавісьць* да ўсяго маскоўскага. Так сама польскі гвалт над беларусамі, калі-б урад і наважыўся зрабіць яго, *не данне сваей мэты так лёгка*, як мо' думаюць „лацíньнікі“: беларусы будуць змагацца проці яго ўсімі магчымымі способамі, не выключаючы звароту аб абарону да Лігі Нацыяў і ўсяго культурнага сьвету. І мы думаем, што ўвесь культурны сьвет, ня гледзячы на агульную барбарызацыю Эўропы, з агідай закляйміць эндэцкі замах на культуру беларускага народу.

## Чатыры прамовы.

Унутраныя падзеі ў Польшчы — ў апошнія часы адвярнулі агульную ўвагу ад заграцічнае палітыкі. І гэта — зусім дарэмна: бо тое, што рабіцца на міжнароднай палітычнай арэне, вельмі моцна адбіваецца і на ўсіх справах унутранога жыцьця Польскае Рэспублікі.

Дзеля гэтага мы пазволім сабе затрымацца на чатырох, сказаных аднатасна, прамовах кіраўнікоў заграцічнае палітыкі Англіі, Францыі, Італіі і Польшчы: п. п. Бальдвіна, Пуанкарэ, Муссаліні і Дмоўскага. Прамовы гэтыя, з аднаго боку, дужа характэрныя для агульна-эўрапэйскага палітычнага палажэньня, з другога-ж—выкрываюць цэлы рад балячак Польшчы.

Есьць два спосабы захаваньня міру у буржуазнай Эўропе. Адзін—гэта *мірная каапэрацыя, супрацоўніцтва* эўрапэйскіх гаспадарстваў на аснове *роўнасьці і ўзаемнага забясьпечаньня інтарэсаў кожнага з іх*. Можна сказаць, што гэтая сыстэма, хоць у скажоным відзе, існавала ў Эўропе да сусьветнае вайны.—Другая сыстэма—гэта *гэгемонія, або дыктатура аднае вялікае дзяржавы*, якая мае настолькі сілы, што можа гэтай сілай прымушаць усе другія дзяржавы сядзець ціха, пагражаючы непакорным вайной. Гэтую вось другую сыстэму стараецца завясьці ў Эўропе Францыя, апіраючыся як на сваей уласнай вайсковай сіле, так і на сіле дробных саюзьнікаў, якія—з прычыны сваей слабасьці—прымушаны шукаць забясьпечаньня свайго існаваньня ў падтрыманьні дзяржавы-дыктатаркі.

Аднак, францускія меркаваньні і дыктатарскія пляны сустракаюцца з магутным адпорам з боку другіх дзяржаваў Антанты, а ў першы чарод з боку Англіі і Італіі.

Супярэчнасьць у палітыцы Францыі і Англіі вельмі ярка выявілася ў справе так званых „рэпарацыяў“, або, справядлівей, у справе Нямеччыны. Францыя хоча забясьпечыць сабе пакорнасьць Нямецкага народу ня толькі ваенным разгромам Нямеччыны, але і зьнішчыўшы ўсё матэрыяльнае багацьце Нямеччыны, зруйнаваўшы яе эканамічна. Проці апошняга востра выступае Англія, бо ад эканамічнае руіны Нямеччыны церпяць і эканамічныя інтарэсы Англіі. Усе спробы англійскіх палітыкаў недапусьціць да гаспадарчага

развалу Нямеччыны Францыя рашуча адкінула. І вось тая Антанта, той саюз, які давёў да перамогі Францыі над Нямеччынай у сусьветнай вайне, *разваліўся*.

Аканчальны развал Антанты вельмі яскрава адзначылі ў сваіх апошніх прамовах Бальдвін і Пуанкарэ. Францыя, бачучы ў выступленьнях Англіі непашану да сваей дыктатарскай ролі, заявіла вустамі Пуанкарэ, што пры ўсім сваім жаданьні *супрацоўніцтва з Англіяй, канечна патрэбнага дзеля захаваньня эўрапэйскага міру*, яна ніколі не адступіцца ад свайго становішча ў двух асноўных для Францыі пытаньнях: рэпарацыяў і забясьпечаньня ад Нямеччыны.

Тое, што сказаў Пуанкарэ аб Англіі, трэба скіраваць і па адрасу Італіі. Сучасны дыктатар Італіі, галава фашыстаў Муссоліні, у сваей прамове ў сэнаце 16 лістапада заняў такое-ж становішча, як і Англія, выставіўшы гэткія дамаганьні: 1) зьменшаньне нямецкага доўгу і прапорцыянальнае зьменшаньне даўгоў дзяржаў Антанты; 2) атрыманьне патрэбных залогаў і забясьпечаньняў; 3) *ліквідацыя акупацыі Рура*; 4) немяшаньне ў унутраныя справы Нямеччыны; 5) *недапусканьне ніякіх зьмен граніц*. Муссоліні такім чынам выступіў зусім выразна ў *абароне ня толькі Нямеччыны, але і ўсяе Эўропы ад дыктатуры Францыі*.

Як бачым, *Францыя аказваецца пакінутай усімі сваімі найбольш магутнымі саюзьнікамі*. Да таго-ж і найвярнейшая ёй дагэтуль Бэльгія разыйшлася з Францыяй у справе фабрыкацыі „Рэйнскае рэспублікі": бэльгійцы ня згодзіліся падтрымаць гэту авантуру. І вось французская палітыка стараецца згуртаваць каля сябе тыя *дробныя дзяржавы*, якія дзеля тых ці іншых прычын ня могуць жыць без магутнае французскае апякункі. Да лічбы гэткіх дзяржаваў належыць перш за ўсё Польшча.

Вось, у апошняй прамове п. Дмовскага ў соймавай камісіі загранічных спраў мы і пачулі даслоўнае паўтарэньне палітычных паглядаў Францыі. Завяраючы пасłоў у мірных імкненьнях французскае палітыкі (ня гледзячы на чыста ваенныя выступленьні яе проці Нямеччыны.!!!), п. Дмоўскі заявіў, што і *Польшча йдзе па такой-жа дарозе*, „бо мы—*адказны перад Эўропай і перад тымі дзяржавамі, якія памаглі нам вярнуць незалежнасьць*". Адным словам, п. Дмоўскі ясна нарысаваў тую *служэбную ролю*, якую Польшча прымушана іграць у агульна-Эўрапэйскай палітыцы.

Узіраючыся гэтак у сваей *замежнай палітыцы* на апякунку—Францыю, пакараючыся французскай дыктатуры на міжнародным грунце, Польшча шукала адначасна зьбліжэньня з фашыстаўскай Італіяй, з якое хіена-пястоўскі ўрад стараецца браць прыклад у *ўнутранай палітыцы*. Рэзкае выступленьне Муссоліні проці французскае дыктатуры стаўляе Польшчу ў дужа клапатлівым палажэньні. І клапатлівасьць палажэньня тым вялікшая, што адбіваецца на эканамічных інтарэсах Польшчы: так, прыкладам, Польшча ўтраціла ў Італіі свой рынак для збыту шлёнскага вугальля.... Гаворачы ў успомненай ужо сваей прамове аб труднасьцях даставы вугальля ў Італію, Муссоліні заявіў, што былі роблены спробы прывозу вугальля з Горнага Шлёнску; аднак, хутка выявілася, што польскае вугальле абходзіцца шмат даражэй, чым кардіфскае (з Англіі). І дзеля гэтага італьянскі рынак закрыўся для Польшчы, а Італія замацавала свае эканамічныя адносіны з Англіяй, выступаючы поплеч з ею проці палітычнае дыктатуры Францыі....

У канцы, дзеля характарыстыкі адносін Італіі да палітыкі п. Пуанкарэ, гожа адзначыць пагляд п. Муссоліні на дамаганьне Францыі, каб Нямеччына выдала ей свайго бышага кронпрынца, які вярнуўся на Бацькаўшчыну: Муссоліні назваў гэта абмылкай, якая завядзе Францыю ў тупік, з катарага ёй цяжка будзе выбрацца....

Як бачым, прыведзеныя чатыры прамовы далі нязвычайна добрую характарыстыку сучаснага палітычнага палажэньня ў Эўропе. А гэтае палажэньне—такое, што найменшая перамена ў устанавіўшымся „аружным міры" можа аканчальна перачыркнуць абшырныя пастановы вэрсальскіх трактатаў.

**Аль.**

# Буджэт пана мін. Кухарскага.

## III. Сацыяльны зьмест „буджэту".

(Гл. „Змаганьне" № 7).

Сацыяльны зьмест „буджэту" п. мін. Кухарскага, найлепш—бо зусім рэальна—характарызуючы запраўдны характар „цела і душы" дарваўшайся да ўлады Хьены, ўскрываецца вельмі лёгка.

Тое тэхнічнае заданьне, якое гэтак гераічна ўзяўся выпаўніць п. мін. Кухарскі, тэорытычна выражаецца вельмі проста.

Як кожнаму хвораму ці грэшніку, таксама й банкруту—для фізычнай духоўнай ці эканамічнай „санацыі" — трэба перадусім забараніць рабіць надалей шкоднае для цела і душы, ці выдаваць грошы „не па кішэні"...

Першым крокам „санацыі" і зьяўляецца збалянсаваньне выдаткаў і даходаў,—як кажуць, *буджэтная раўнавага*.

Калі гэткім чынам будзе зьніштожаны дэфіцыт, г. зн. няхватка даходаў або „перахватка" выдаткаў, якая дагэтуль пакрывалася друкаваньнем папяровых „грошаў", дык толькі тады можна было-б і спыніць гэтую, так шкодную, так руйнуючую амаль ня ўсё насяленьне, асабліва працоўныя, атрымліваючыя плату ў марках клясы, гэтак званую *„інфлянцыю"*. „Інфлянцыяй" іменна і называецца гэтая *„напухласьць"*, *раздутасьць*, гэтая *„вадзянка"* грашовага абегу, які *павялічваецца ня дзеля таго, што гэта патрэбна для хуткага абмену ўсялякім дабром* у краі, але іменна *дзеля таго, што не хапае даходаў для пакрыцьця расходаў па дзяржаўнай гаспадарцы*. Гэты *„нездаровы"*, абязцэніваючы цэлую масу выпушчаных грошаў у гаспадарстве, лішак грашовага абегу, толькі ашуківаючы гучнымі „мільёнамі" наіўнадаверчывае, пакуль не разьбярэцца ў справе, вуха, і завецца „інфлянцыяй".

А толькі тады, калі ня будзе больш друкавацца пустых грошай, стане на сталым курсе і марка, і можна будзе заняцца далейшым упарадкаваньнем старой, або ўвядзеньнем новай валюты.

І вось гэты першы крок у цэлай праграме ўраўнаважаньня буджэту — фінансава-валютовай рэформе і хацеў зрабіць п. мін. Кухарскі сваім „буджэтам".

П. Кухарскі, як толькі мог, абрэзаў выдаткі Польскага гаспадарства і як толькі здалеў, або... пасьмеў—павялічыў яго даходы.

Мы казалі, што тэорэтычна гэта—задача з курсу І-ай клясы пачатковай школы.

Але, калі мы пад абстрактныя лічбы „арытмэтычнай задачы" падставім усе тыя жывыя патрэбныя гаспадарству і насяленьню края ўстановы, на якія ідуць тыя ці іншыя асыгнаваньні з дзяржаўнага скарбу, дык мы добра ўцямім, што задача скарочаньня расходаў стане шмат больш зложанай.

Як павышэньне даходаў скарбу, таксама зьмяншэньне выдаткаў можа адбыцца *коштам тых або іншых установаў, тых ці іншых клясаў насяленьня*.

Цяжар гаспадарственых даходаў, „падаткавы прэс" можна налажыць *або пераважна на багатыя*, валадаючыя клясы капіталістаў і абшарнікаў, або—на працоўныя і незаможныя—сялянства, работнікаў і працоўную інтэлігенцыю.

Вось дзеля чаго ў буджэце, як быццам у выраэньні чыста тэхнічнай фінансавай задачы—дасяжэньня раўнавагі—*павінна канешна адбіцца рэальная сацыяльная палітыка ўраду, і клясавы склад кіруючай у гаспадарстве „большасьці"*...

І вось „буджэт" п. мін. Кухарскага зьяўляецца ў гэтым сэнсе клясычна-адкравенным і рашучым: як павялічэньне дзяржаўных даходаў, таксама і зьмяншэньне расходаў ён робіць *пераважна коштам агромных масаў галоднага і голага ў нашыя часы, „аграбленага" маркай амаль не да ніткі, працоўнага народу, і наадварот*—з вялікаю далікатнасьцю п. мін. Кухарскі шкадуе кішэняў багатыроў і ўласьнікаў, але зусім не шкадуе ня толькі кішэняў, але і *самога жыцьця* і істнаваньня масаў працоўнага народу.

Каб даць паняцьце аб гэтай прынцыповай розьніцы ў ацэнцы ўрадам п. Кухарскага вартасьці самога абшарніка і працаўніка, прывядзем два прыклады.

Калі дзяржаўныя ўраднікі гавораць, што іх пэнсія фактычна робіцца ўсё меншай і меншай, што яны павінны ўжо „жыць" *менш як на палову* даваеннага „existens-minimuma", дык сам пан шэф ураду пацяшае іх, што гэта так і павінна быць, што „будзе йшчэ горш", што значыць—хто ня вытрымае „пэрыяду санацыі", дык напэўна памрэ — у ахвяру „дарагой айчызны"...

*І на гэтым „паменшаньні істнаваньня" сваіх працаўнікоў урад п. мін. Кухарскага „зьбірае" для скарбу запраўды вялікія сумы.*

Агромныя масы ўрадоўцаў, апрача таго, дзеля той самай зусім канешнай „oszczędności" папросту выкідаюцца на вуліцу, каб аблягчыць п. Кухарскаму „ураўнаважаньне буджэту".

Але-ж калі міністры фінансаў пачалі прабаваць *націснуць* трохі на кішані ўласьнікаў, дык тыя, скінуўшы абодвых папярэднікаў п. Кухарскага, цяпер ўрадзіліся надта лоўка: п. Кухарскі далікатна і спраўна выпаўняе ўсе іх загады. Напрыклад: падлічыўшы *па ліпнёваму* курсу маркі, калі даляр каштаваў 150—200 тысяч марак, падатак ад маемасьці, каб ня руйнаваць панскіх кішэняў, пан Кухарскі згадзіўся прыймаць *цяпер* „залічкі", пакуль там яшчэ пройдзе закон аб „валёрызацыі"... І гэткіх прыкладаў—дужа многа.

Але гэта далёка ня ўсё.

„Буджэт" п. Кухарскага, зьберагаючы дзяржаўны скарб ад непасільных выдаткаў на ўтрыманьне гаспадарственага апарату фінансава-беспадастаўна разбудаванага гаспадарства, разам з тым аберагае кішэні, панскае „цела і душу" ад „непасільных" для іх камфорту (жыцьцёвых выгадаў) падаткаў, вырашае задачу „oszczędności" папросту „хірургічна": ён проста *пазбаўляе средстваў* і тым *„рэдукуе"*, а то йшчэ прасьцей—*касуе* розныя *найпатрабнейшыя, найкарыснейтыя, перадусім абслугоўваючыя іменна патрэбы шырокіх масаў працоўнага і незаможнага насяленьня дзяржаўныя і грамадзкія ўстановы*.

У „буджэце" п. Кухарскага зусім „пагаспадарску" абрэзаны каштарысы ўстановаў культурных, прасьветных, сацыяльнай апекі і г. п.

Як падлічыў у Сойме пасол з „Вызваленьня", Рудзінскі, *на народнай прасьвеце* пан Кухарскі „зьбярог" польскаму скарбу 50 міл. злотых,—амаль *ня трэць* таго, што было асыгнавана на гэты год...

А мы ведаем, што ў-ва ўсіх запраўды культурных і дэмакратычных краёх даўно ўжо зразумелі, што якраз народная асьвета састаўляе *найвялікшы і найкарысьнейшы скарб гаспадарства*...

Але—наадварот—у „даваенныя часы", да якіх так імкнецца Польшча п. п. Дмоўскага і Кухарскага, народную прасьвету лічылі па меншай меры *лішняй*. І „буджэт" пана Кухарскага, відаць, таксама як і тады лічыць „анальфабэтаў", (непісьменных) найбольш „сьвядомымі" і пэўнымі сваімі выбаршчыкамі і клапаціцца, каб яны—для трываласьці хьенскага ўраду, ніколі не пераводзіліся ў Польшчы...

40 проц. урад п. Кухарскага „скрэсьліў" з буджэту Мін. Публічных Работаў, якое зьяўляецца ўстановай сацыяльнай апекі і мае заданьнем даваць працу безработным, галадаючым рабочым...

Больш як напалову, бо на 57 проц., паменшаны каштарыс Мін. Працы, маючага мэтаю гаспадарственую абарону правоў і інтарэсаў работнікаў.

Зусім скасавана Мін. Народнага Здароўя, якое, па зьняцьці з яго каштарысу 60 проц., перадана ў гаспадарку пана Керніка, у Мін. Унутр. Спраў.

Гэтая ўстанова, як ведама, мела заданьнем пільнаваньня санітарных варункаў у краі, барацьбу з заразнымі хваробамі, эпідэміямі, ад якіх, як ведама, найбольш церпіць і папросту мрэ гросты працоўны народ...

На 20 проц.—паменшаны буджэт Мін. Почт і Тэлеграфаў і на 113 тысячаў злотых Мін. Чыгунак. Гэта значыць, што з гэтых установаў ня толькі выкінута шмат патрэбных працаўнікоў, абслужываўшых тыя патрэбы *агулу насяленьня, дзеля якіх якраз і істнуе гаспадарства*, але гэта значыць, што ня будзе ані новых паштовых аддзяленьняў *на вёсцы—бліжэй да сялянскага народу*, ня будзе ні новых палустанкаў, новых дарог, ані адбудаваньня зруінаваных у часе вайны станцыяў і г. д.

Але затое будуць паўнейшыя, бо „oszczędzone", кішэні паноў і—больш паліцыі...

10 проц. зьнята з сумы расходаў Мін. Зямельных Рэформаў... Гэта зусім ясна, бо запраўды ніякіх „рэформаў" і ня мае быць, апрача „асадніцтва", а зямельнымі справамі займецца Мін. Рольніцтва, якое, мы ўжо ведаем, аддана, міма носу „Пяста"—дэлегату" паноў абшарнікаў, і ён будзе зорка сьлядзіць, каб не рабілася ніякіх рызыкоўных „зямельных экспэрымэнтаў".— Яго буджэт, відаць,—незакрануты панам Кухарскім...

Але і гэта яшчэ й ня ўсё.

Як ведама, пасрэдныя падаткі (акзызы), як быццам незаметныя,—тыя, што накладаюцца на прадукты і тавары, прытым пераважна гэтак званыя — першае неабходнасьці—канешна патрэбныя ўсякаму, як запалкі, тутунь, газа, цукер, соль і т. п. кладуцца цяжкім бярэмем на шырокія працоўныя масы.

І вось п. мін. Кухарскі і яго памоцнік заявіў, што гэтыя падаткі ў яго буджэце, як і ў буджэце даваенных процінародных манархіяў, будуць састаўляць 77 проц. усіх даходаў.

А „за гэта" падаткі безпасярэднія—налогі на даходы і маемасьці, якія, як кожнаму зразумела, падаюць пераважна на багатых, на жывучых чужой працай капіталістаў і абшарнікаў, будуць таксама ня больш, як перад вайной—каля 23 проц.

Цяпер для нас зусім ясны і сацыяльны зьмест буджэту п. мін. Кухарскага. Ясны для нас і запраўдны сацыяльны смак тэй палітычнай перамогі правіцы над лявіцай, якая адбылася на нашых вачох...

Лявіца, якая, меўшы ўладу, не правяла ані воднай сацыяльнай рэформы, ня кажучы ўжо аб рэвалюцыі, не зьліквідавала абшарніцтва, не ўмацавала пазыцыяў працоўных клясаў местаў і вёсак, тым самым не ўмацавала і сваіх „rządów",—мае тое, што заслужыла сама. І калі п. Рудзінскі пагражае правіцы, што народ зьмяце яе з твару Польскай зямлі, дык гэта ўжо зробіць не цяперашня „лявіца" і калі гэтае зробіцца, дык не на яе карысьць...

**С.**

# Атаман Муха.

Польская прэса шмат увагі зварачвае на дзейнасьць вядомага атамана Мухі, аб якім злажылася шмат лягендаў і які карыстаецца вялікаю папулярнасьцю сярод мясцовай людкасьці.

Піша аб ім і орган віленскіх консэрватараў „Słowo". Зазначыўшы вялікую папулярнасьць Мухі і цэлы рад лягендаў аб ім, „Słowo" піша:

„Такія і падобныя да іх весткі, байкі і лягенды, праўдзівыя апавяданьні для дзяцей і старшых з вуснаў у вусны плывуць з хаты ў горад, з гарадзкіх установаў зноў пад страху і круціцца гэтае Мушынае perpetuum mobile, а разышоўшагася гайдамака паліцыя ня можа злавіць, бо ў Галіцыі ня вучылі як лавіць гэткага эскімоса па літоўскіх пушчах, можа толькі ліпкія паперы выдалі, на якія ловяцца розныя мушкі, што лятаюць у пакоі, але гэтае аднае мухі як няма, так няма, а ў лес ісьці страшна.

Тымчасам Муха здаровы і вясёлы на ўсіх крэсах, як гэта кажуць, „з веткі на ветку" скача і здабыва-

